

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 КАСТРЫЧНІК 4 Панядзелак

№ 187 (622)

Цана 10 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

### МЭР БОМБЕЯ И БЕЛОРУССКАЯ ФАРМАКОЛОГИЯ

В Беларуси находится делегация Республики Индия во главе с мэром города Бомбея, председателем группы компаний «Акбараоллис» господином Каракивала. Делегация прибыла 30 сентября по приглашению Председателя Совета Министров РБ В.Кебича с целью разработки проекта сотрудничества в сфере фармакологической промышленности. В ходе визита члены делегации встретятся с В.Кебичем, министром здравоохранения РБ В.Казаковым, председателем Комитета по фармакологической и микробиологической промышленности И.Казакевичем, а также ознакомятся с фармацевтической промышленностью в республике.

Ирина ЗАЙЦЕВА.

### У МІНГАРВЫКАНКАМЕ

Адбылося пасяджэнне выканкама гарадскога Савета народных дэпутатаў. Былі разгледжаны пытанні аб парадку індэксацый жыллёвай квоты, планіровачнай арганізацыі плошчы Незалежнасці, развіцці матэрыяльна-тэхнічнай базы па забеспячэнню горада пасадачным матэрыялам, рабоце Маскоўскай мелка-аптовай базы і іншыя.

Асобую ўвагу члены выканкама ўдзялілі ўдакладненню паказчыкаў бюджэту горада на 1993 год, а таксама прабleme вытворчасці тавараў народнага спажывання прамысловымі прадпрыемствамі і пастаўцы іх у гандлёвую сетку Мінска для забеспячэння гараджан.

Больш падрабязна аб гэтым чытайце ў наступных нумарах газеты.

В среду, 6 октября, в 18.00 в 101 аудитории географического корпуса Белгосуниверситета состоится дискуссия на тему:

«СТРУКТУРНАЯ ПЕРЕСТРОЙКА ЭКОНОМИКИ БЕЛАРУСИ».

ПРИГЛАШАЮТСЯ ВСЕ ЖЕЛАЮЩИЕ.

Политклуб Объединенной демократической партии Беларуси (ОДПБ).

### МІСІЯ ПАЛОВЫ КАМІСІІ

Распараджэннем Савета Міністраў Беларусі № 872р зацверджаны склад беларускай часткі двухбаковай камісіі па арганізацыі выканання Пагаднення паміж Беларуссю і Расіяй аб аб'яднанні грашовых сістэм гэтых дзяржаў. Сустаршынямі яе прызначаны Дзяржаўны сакратар рэспублікі па справах СНД Уладзімір Заламай і старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч. Сфарміравана шэсць рабочых груп для падрыхтоўкі дакументаў, рэгулюючых фінансавыя, грашова-крэдытныя, цэнавыя пытанні адносін паміж Беларуссю і Расіяй.

Ян КАПЫЛЬСКІ.

### БУДУЦЬ ВЯЛІКІЯ ПЕРАГАВОРЫ. МАЛЫЯ ЎЖО АДБЫЛІСЯ

*Паводле звестак БелаПАН, на другую палову кастрычніка намечана трохбаковая сустрэча прадстаўнікоў Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, урада і аб'яднанняў наймальнікаў, падчас якой плануецца абмеркаваць шэраг важнейшых пытанняў: захады па стабілізацыі эканомікі, сацыяльнай абароне насельніцтва, удасканальванні сістэмы падаткаабкладання прадпрыемстваў, механізмы суадносін мінімальнай заработнай платы і мінімальнага спажывецкага бюджэту. Важным момантам сустрэчы стане таксама абмеркаванне перспектыў заключэння трохбаковага генеральнага пагаднення на 1994 год.*

*Практычна ўсе гэтыя пытанні разглядаліся на нарадзе рабочых груп прадстаўнікоў прафсаюзаў, урада і наймальнікаў, якая адбылася 29 верасня ў штаб-кватэры ФПБ. Узгодненыя імі рашэнні па шэрагу важнейшых пытанняў лягуць у аснову работы трохбаковай кастрычніцкай сустрэчы.*

Ірына ЛЕЎШЫНА.

### МАЛОДШЫ БРАТ «ПАНАСОНІКА» НАРАДЗІЎСЯ Ў МІНСКУ

Па звестках БелаПАН, мінская фірма «Яніна», якая займаецца вырабам тэлефонаў па тыпу японскіх «Панасонікаў», рыхтуецца выставіць сваю прадукцыю на суд пакупнікоў.

«Яніна» выпускае і рэалізуе тэлефоны двух тыпаў: частотныя і звычайныя, адаптаваныя пад айчынную сецьць. Гэта прадукцыя карыстаецца попытам не толькі ў дзяржгандлі і ў прыватных асоб, але і ва ўнутраных войсках МУС і Міністэрства абароны рэспублікі. Асноўная праблема малога прадпрыемства ў тым, што на тэрыторыі Беларусі мала заводаў, якія выпускаюць радыёдэталі. У сувязі з гэтым асноўную частку камплектуючых дэталей даводзіцца закупляць у Расіі.

Наталля АЛЕЙНІКАВА.

## ТЭМА ДНЯ

### ЗНОЎ У ШМАТ РАЗОЎ ПАВЯЛІЧЫЛІСЯ ЦЭНЫ

Міхаіл ЖУРАВОВІЧ, БЕЛІНФАРМ.

З прыбліжэннем халадоў намнога «пахудзеюць» кашалькі ў насельніцтва рэспублікі. І не таму, што неабходна паклапаціцца аб набыцці цёплага адзення, а перш за ўсё ў сувязі са значным павышэннем з 1 кастрычніка тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі, электраэнергію і цэн на газ. У дзесяць разоў даражэй будзе каштаваць цяпер кватрплата. Адзін квадратны метр жылой плошчы ацэнены ў 13 рублёў 20 капеек. Цеплавая энергія для ацяплення і гарачага водазабеспячэння, карыстанне водаправодам падскочаць у цане ў 3,5 раза, а каналізацыя — у 5,5. У 3,4 раза больш будзе каштаваць прыродны газ, што адпускаецца сельскагаспадарчым прадпрыемствам, сялянскім (фермерскім) гаспадаркам і тым, хто выкарыстоўвае яго пры вытворчасці агародніны, а таксама для насельніцтва, жыллёва-будаўнічых кааператываў, бытавых патрэб і ў 10,2 раза для ацяплення. У два разы больш прыйдзецца плаціць за электрычную энергію і газ для запраўкі аўтамабіляў. Патроіцца і кошт звадкаванага газу, рэалізуемага насельніцтву для бытавых патрэб. Так, адзін 50-літровы балон будзе каштаваць ужо 2400 рублёў. На набыццё энергаталона гараджанам прыйдзецца раскашэліцца на 1300, а ўладальнікам кватэр, дзе ўстаноўлены электрапліты, і сельскім жыхарам — на 860 рублёў.

Чарговы ўдар па бюджэту насельніцтва ў прынятай наконт гэтага пастанове Дзяржэканомплана Беларусі тлумачыцца ростам затрат на жыллёва-камунальныя паслугі, выпрацоўку электраэнергіі, выкліканых павышэннем цэн на энергарэсурсы, што закупліваюцца за межамі рэспублікі. Гэта павышэнне цэн і тарыфаў улічана Дзяржкампрацай, Мінфінам і Мінсабесам пры распрацоўцы мер па сацыяльнай абароне.

Паводле падлікаў спецыялістаў, з 1 кастрычніка пражыванне ў дзяржаўных кватэрах, напрыклад, двух чалавек у аднапакаёвай, плошчай 20 квадратных метраў, будзе каштаваць дзесьці 6700 рублёў у ацяпляльны перыяд і 3900 — у летні, трох чалавек у двухпакаёвай у 30 метраў — адпаведна 9800 і 5500, чатырох чалавек у трохпакаёвай — 13300 і 7200 рублёў.

### КАЛЯНДАР

Панядзелак, 4 кастрычніка.

*СОНЦА — 6.16/17.41.*

*Даўжыня дня — 11.25.*

МЕСЯЦ — *поўня 30 верасня,*

*захад 8.53/усход 17.29.*

ІМЯНІНЫ

*Сёння:*

*Праваслаўныя —* *Дзмітрыя, Кандрата.*

Каталіцкія — *Разаліі, Францішка.*

*Заўтра:*

*Праваслаўныя —* *Іоны, Макара, Пятра, Фокі.*

Каталіцкія — *Апалінара, Барталамея, Пляцыда.*







### ДАПАМАЖЫЦЕ ДЗЯЎЧЫНЦЫ!

52 дні ў непрытомнасці ляжыць у аддзяленні рэанімацыі Мінскай абласной інфекцыйнай бальніцы 4-гадовая Вераніка Камкова з дыягназам менінгаэнцэфаліт.

Надзея застаецца толькі на імпартныя лекі «Фартум» і «Інстэнон». Адлік жыцця дзяўчынкі ідзе літаральна на хвіліны.

Просьба да ўсіх, хто можа дапамагчы хутка адшукаць дэфіцытныя лекі, тэлефануйце ў бальніцу: 58-75-43.

### КОРАТКА

**На далейшае** пашырэнне культурных сувязей з Рэспублікай Беларусь настроены Германія і Вялікабрытанія. Па звестках БелаПАН, Брытанскі савет, размешчаны ў Лондане, мае сур'ёзны намер прапагандаваць у Беларусі брытанскую культуру. У снежні ў залах Дзяржаўнага мастацкага музея адбудзецца выстаўка скульптуры, дзе будуць прадстаўлены і работы выдатнага англійскага скульптара Генрыха Мура.

Інстытут Гётэ ў Германіі не так даўно ўжо прапанаваў увазе жыхароў Беларусі выстаўку нямецкай графікі.

### ПАСПРАБАВАЦЬ «ЯБЛЫКІ»

*На працягу трох дзён у Доме афіцэраў працавала выстава, арганізаваная сумесна Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь і расійскім акцыянерным таварыствам «Сэптэм». Менавіта гэтая фірма прадстаўляе на нашым рынку кампутары «Эпл Макінтош». Выстава, дарэчы, з'яўлялася адным з этапаў трохмесячнай экспертызы магчымасцей данай тэхнікі, якую праводзіць Міністэрства абароны. Між іншым, гэтай установе для выпрабаванняў яшчэ раней былі пастаўлены два партатыўныя кампутары з сістэмай мабільнай сувязі. Але канчатковае рашэнне спецыялісты Міністэрства вынясуць пасля заключнага тэсціравання. Бо зразумела, якія жорсткія патрабаванні па ўсіх магчымых параметрах прад'яўляюцца да тэхнікі, што працуе «на абарону». Таму вырашана было разгледзець усе магчымыя варыянты, у тым ліку і «Эпл Макінтош». Словам, каб узяць — трэба пакаштаваць «яблык», бо менавіта так, у перакладзе з англійскай мовы, гучыць назва «Эпл».*

### ИЗВЕЩЕНИЕ

Президиум Первомайского районного Совета народных депутатов сообщает, что 14 ОКТЯБРЯ 1993 года созывается очередная XVI сессия районного Совета с повесткой дня: «О состоянии криминогенной обстановки в районе и задачах правоохранительных органов и общественности в укреплении правопорядка».

Сессия состоится в актовом зале райсовета (пер.К.Чорного, 3).

Начало работы сессии в 9.30.

Просьба к жителям района вносить свои предложения по рассматриваемому вопросу ПО АДРЕСУ:220012, г.Минск, пер.К.Чорного, 3, орготдел (тел.: 66-05-11, 66-95-71).

## ДЗЕЛАВЫ МІНСК

### ЁСЦЬ ПРАДСТАЎНІЦТВА, БУДЗЕ І СУПРАЦОЎНІЦТВА

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

Адзін з вядучых хімічных канцэрнаў свету, заснаваны больш за 125 год таму, нямецкі канцэрн БАСФ адкрыў у Мінску сваё прадстаўніцтва. Прадпрыемствы, што ўваходзяць у склад канцэрна, размешчаны ў 39 краінах. Яны вырабляюць больш за восем тысяч відаў рознай прадукцыі, якая прадаецца практычна ва ўсім свеце (у 170 краінах).

За першую палову гэтага года гандлёвы абарот БАСФ у Беларусі дасягнуў 11 мільёнаў нямецкіх марак. Нам пастаўляюць перш за ўсё хімічныя сродкі аховы раслін, поліўрэтаны (для ВА «Атлант»), пігменты і сродкі афарбоўкі штучных валокнаў, лекі, усе прадукты нафтахіміі. У якасці аплаты за чацвёртую частку прададзенага БАСФ вывозіць калійную соль, якую перапрацоўвае на ўласных заводах для сваіх патрэб. За астатняе — разлік у марках.

Канцэрн плануе стварыць у Беларусі сумеснае прадпрыемства па вытворчасці прэміксаў — вітамінных і мінеральных дабавак у камбікармы. Вялікія планы ў БАСФ наконт перапрацоўкі ў Беларусі газу з паўвострава Ямал. Як вядома, газаправод для транспарціроўкі гэтага газу ў Германію пройдзе праз нашу краіну (трэба думаць, што гэта вынас экалагічна шкодных прадпрыемстваў з Германіі?). Інвестыцыйная палітыка БАСФ вельмі селектыўная. Так, канцэрн зацікаўлены ствараць у нас прадпрыемствы, якія б спажывалі сыравіну яго вытворчасці, але не вельмі жадае, каб прадукцыя гэтых прадпрыемстваў ішла ў Еўропу (каму патрэбны канкурэнты?). Магчымы інвестыцыі ў глыбокую перапрацоўку нафты, з тым разлікам, каб прадукты яе можна было прадаць на Захадзе.

Ужо шмат гадоў канцэрн гандлюе з прадпрыемствамі Беларусі. Існуюць даўнія дзелавыя адносіны, якія дзякуючы адкрыццю прадстаўніцтва БАСФ будуць развівацца далей.

## ЭТО ФАКТ

### ПОКА ЕДИНСТВЕННЫЙ, НО НЕ ПОСЛЕДНИЙ

**1 октября по ул.Лынькова, 21 открылся районный центр «Благодеяние», где разместилась социальная служба и магазин для малообеспеченных людей.**

Ольга ЖАРИНА.

Мы уже писали о том, что инициатором появления этого центра был Фрунзенский исполком. Он же вместе с районным отделением Белбизнесбанка и обществом «Созвездие» стал учредителем «Благодеяния». Создать центр помогали многие государственные и коммерческие структуры.

И вот в День пожилых людей «Благодеяние» раскрыло свои двери для жителей Фрунзенского района, нуждающихся в помощи: одиноких людей, инвалидов, многодетных семей...

Здесь выслушают их нужды, примут заявки на приобретение каких-то товаров. Здесь же будет распределяться гуманитарная помощь. В одном из отделов магазина по специальным приглашениям можно будет купить одежду и обувь по низким ценам.

В наше время малоимущим людям не по карману многие вещи, а у кого-то и здоровья нет, чтобы ходить по магазинам и стоять в очередях. Для них такой центр станет настоящим помощником.

Пока «Благодеяние» не имеет аналогов в Минске, но выступивший на открытии мэр города А.М.Герасименко сказал, что скоро в каждом районе появится такой центр. Они просто необходимы. Ведь только одиноких пожилых людей в Минске 14 тысяч. А сколько еще тех, кому нужна помощь... Так пусть, благодаря работе таких центров, нуждающихся станет меньше.



**НА СНИМКЕ: в торговом зале центра «Благодеяние».**

**Фото Сергея ГРИЦА.**

## БІРЖАВЫЯ НАВІНЫ

### ДОЛАР: НА ПОЎНЫ РОСТ І ЎЖО Ў «КАПЕЛЮШЫ»

Зайздросную стабільнасць, выражаную планамерным наборам вагі, не ў прыклад свайму расійскаму сабрату, захоўвае долар на біржавым рынку рэспублікі, выпрастаўшыся на поўны рост яшчэ на папярэдніх таргах міжбанкаўскай валютнай біржы, калі долар прадаваўся за 3500 рублёў. На гэты раз паважаны амерыканец абзавёўся яшчэ і «капелюшом» — яго курс зноў павысіўся на 290 пунктаў. На праведзеных 29 верасня біржавых таргах пакупнікі валюты ўжо аддавалі 3800 рублёў за долар.

Нягледзячы на тое, што аб'ём продажу амерыканскай валюты ў параўнанні з мінулымі таргамі вырас больш чым у два разы і склаў 3 мільёны 443 тысячы, аднак і ён не змог поўнасцю задаволіць апетыты пакупнікоў. Гэта акалічнасць, відаць па ўсяму, і адыграла першую скрыпку ў фарміраванні цяперашняга курса.

Атрыманы наступныя вынікі па валюце долар ЗША:

| | |
|---|---|
| у таргах прынялі ўдзел 15 банкаў | |
| першапачатковы курс | 3 510 |
| курс таргоў | 3 800 |
| аб'ём продажу | 3 443 000 |
| попыт | 4 422 000 |
| першапачатковае прапанаванне | 1 695 000 |

Вынікі таргоў па валюце нямецкая марка:

| | |
|---|---|
| у таргах прынялі ўдзел 11 банкаў | |
| першапачатковы курс | 2 250 |
| курс таргоў | 2 405 |
| аб'ём продажу | 979 000 |
| попыт | 1 669 000 |
| першапачатковае прапанаванне | 558 000 |

Курс расійскага рубля да беларускіх разліковых білетаў застаўся ранейшым і склаў 1,50.

БЕЛІНФАРМ.

## УЧОРА Ў МАСКВЕ

### «КРЫВАВАЯ НЯДЗЕЛЯ»

МАКСІМ ГРЭК, «ДВ».

Весткі з Масквы былі адначасова і ашаламляльна-нечаканымі, і прагназуемымі. Было зразумела, што камуністычна-шавіністычная спайка хасбулатавых і руцкіх, макашовых і бабурыных, сцерлігавых і анпілавых і іншых чырвона-карычневых спакойна ад улады не пойдзе. Было зразумела, што тая ўзброеная шваль, якая сеяла смерць на зямлі Малдовы і Абхазіі, у Летуве і ў Карабаху, недарэмна сцякаецца пад дах Белага дому з абшараў былой імперыі. Было зразумела, што барацьба за перамогу дэмакратыі і розуму ў Расіі толькі разгараецца, што наперадзе яшчэ доўгі і пакутлівы шлях. Але меркавалася, што перамовы паміж былым Саветам і Прэзідэнтам пры пасрэдніцтве Праваслаўнай Царквы дадуць плён, не дазволяць ужыць апошні аргумент — чаргу Калашнікава. Але яшчэ ўчора днём жыло спадзяванне на тое, што восень 93-га года не запіша болей на свой рахунак новых чалавечых жыццяў.

І — кроў... Мноства забітых, мноства параненых.

Як паведамлялася з Масквы, учора каля пятнаццаці гадзін натоўп дэманстрантаў прарваў ачапленне АМАПа вакол Белага дома, а потым узброеныя банды баявікоў здзейснілі напады на маскоўскую мэрыю і комплекс будынкаў тэлерадыёкампаніі «Астанкіна».

Потым кожную гадзіну прыходзілі звесткі, і кожная навіна, кожны новы факт, кожны новы кадр відэахронікі рабілі сітуацыю ўсё больш зразумелай і жудаснай.

Азвярэлыя банды кідаліся на ланцужкі АМАПа, а гэты АМАП не меў іншай зброі, акрамя дубінкі ды шчыта. Васемнаццацігадовых хлапчукоў у міліцэйскай форме білі ламамі, нагамі, закідвалі каменнем, а гэтыя «стражы правапарадку», выціраючы слёзы і кроў, добраахвотна здымалі і аддавалі бандзюгам свае бронекамізэлькі.

Узброеныя аўтаматамі фашысты са свастыкамі на рукавах разам са сваімі адзінаверцамі камуністамі пад чырвонымі сцягамі крочылі да мэрыі, і адчувалі сябе поўнасцю беспакаранымі.

Цяжкія ЗІЛы таранілі ўваход у тэлецэнтр, і тут жа ў глыбіню будынка адкрываецца агонь з гранатамётаў. Гінуць не толькі прадстаўнікі малакольказнай варты з байцоў спецатрада дывізіі Дзяржынскага, але ні ў чым не вінаватыя супрацоўнікі тэхнічных службаў. Гараць тры паверхі, дзе размешчаны асноўныя эфірныя студыі. Тэлебачанне «Астанкіна» перапыняе работу. Расійскі тэлеканал вядзе трансляцыю з запаснай, амаль падпольнай студыі.

Да народа Расіі звяртаецца Прэзідэнт, які ўводзіць надзвычайнае становішча тэрмінам на адзін тыдзень. Звяртаецца прэм'ер, які просіць захаваць спакой і спыніць крывавы шабаш. Звяртаецца віцэ-прэм'ер, які просіць масквічоў прыйсці да будынка Массавета і стаць на абарону дэмакратыі, на абарону будучыні Расіі.

Мноства зваротаў у прамым эфіры прагучала мінулай ноччу. Мноства людзей прыйшло ў тэлестудыю, каб выказаць свае адносіны да фашысцка-камуністычнага перавароту.

Вядома, яшчэ рана рабіць ацэнкі. Вядома, усе яшчэ знаходзяцца пад уплывам эмоцый. Зразумела, што зараз, раніцай, калі я друкую гэтыя радкі, ніхто не ведае, колькі чалавечых жыццяў абарвецца, перш чым злачынства будзе спынена, а вінаватыя панясуць пакаранне.

Але мне асабіста зразумела адно — можна і трэба наракаць на расійскія ўлады за залішнія даверлівасць і чыстаплюйства, за бяззбройныя, а таму бессэнсоўныя міліцэйскія кардоны ды малакольказную і слабую варту ля найважнейшых адміністрацыйных будынкаў. Можна і трэба, хоць мы і разумеем, што прычына таму — жаданне не дайсці ў супрацьстаянні да крыві.

Але нельга ні зразумець, ні дараваць беладомаўцам. Нельга больш гуляць у дэмакратыю з узброенымі бандытамі. Нельга больш з цярпімасцю ставіцца да рэваншыстаў. Нельга больш закрываць вочы на тое, што камуністы і фашысты — аднаго колеру і адных поглядаў, і што для іх чалавечае жыццё — смецце, чалавечая мараль — пусты гук, а законы — толькі паперка.

І яшчэ. Нельга не разумець, што сёння ў Маскве вырашаецца і лёс Беларусі таксама. Нельга не праецыраваць маскоўскія падзеі на беларускую раскладку сілаў. Нельга не ўлічваць, на чыім баку сімпатыі лукашэнкаў і казловых. І нельга забывацца, якія сілы сёння правяць баль ва ўладных структурах нашай краіны. Дай жа Божа сілы нам усім выстаяць!

## СЁННЯ

**Па паведамленнях інфармацыйных агенцтваў, колькасць забітых на восем гадзін раніцы склала дваццаць тры чалавекі, колькасць параненых дасягнула ста васьмідзесяці шасці, і кожная хвіліна прыносіць новыя ахвяры.**

* * *

**Як паведаміла ноччу радыё, Патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Алексій II атрымаў інфаркт. Жыццё знаходзіцца па-за пагрозай.**

* * *

**Як паведаміў «Постфактум», раніцай, каля паловы шостай, пачалася масавая выдача зброі ля дваццатага пад'езда Белага дома.**

* * *

**Каля паловы восьмай калоны бронетэхнікі прарвалі барыкады вакол Дома Саветаў. Плошча перад будынкам вызвалена ад «абаронцаў». У момант, калі газета здаецца ў друк, ля Белага дома ідзе бой. Здаецца, апошні і рашаючы?**

* * *

**У ранішнім звароце Прэзідэнта Расіі Б.Ельцына падкрэсліваецца, што парадак у сталіцы ўжо наводзіцца, збройны пераварот фашысцкіх і камуністычных сілаў пацярпеў няўдачу. Прэзідэнт забараніў дзейнасць партый, якія ўдзельнічалі ў спробе путча. Таксама прыпынена дзейнасць сталічнага і мясцовых Саветаў Масквы.**

МНЕНИЕ

# МЫ ДОЛЖНЫ СДЕЛАТЬ СВОЙ ВЫБОР

**Валентин МИХЕДЬКО, историк, аспирант БГУ.**

Беларусь переживает тяжелые времена. Растут цены, скудеет товарный рынок, не хватает топлива, ширится безработица. Правительство республики настаивает на том, что единственный выход из этой ситуации — финансовый союз с Россией. Нам обещают прекращение роста цен и даже их снижение, исчезновение трудностей в денежном обращении, облегчение положения промышленных предприятий. Государственное телевидение, официальная пресса то и дело говорят о предполагаемых выгодах такого союза.

Но вполне уместен вопрос к правительству — как же оно допустило до такой экономической ситуации в стране, что теперь необходимо отказаться от собственной денежной политики? Готово ли правительство нести ответственность за это перед народом? В любой стране не справляющееся со своими прямыми обязанностями правительство уходит в отставку. Наше, похоже, не допускает даже мысли о своей ответственности за происходящее. Мало того, вместе с крупной хозяйственной номенклатурой стремится сохранить свою власть и ищет поддержки у российских собратьев. При этом спекулирует на том трудном положении страны и народа, созданию которого само способствовало.

Скажите, почему нет топливного кризиса в странах Балтии, Польше? Почему деньги балтийских государств день ото дня все дороже, хотя российским рублем там и не пахнет? А ведь эти страны также зависят от российских поставок. Наконец, почему латиноамериканские государства сохраняют свою собственную денежную политику под боком у Соединенных Штатов с их долларом? Почему процветают карликовые островные Тайвань и Сингапур? Думаю, что не в последнюю очередь потому, что правительства и народы этих стран оберегают самостоятельность своих финансовых систем, а значит, свою экономическую и государственную самостоятельность. Есть тому примеры и в нашей истории. Великое княжество Литовское в течение веков находилось в теснейшем государственном, военно-политическом и экономическом союзе с Польшей и даже образовало с ней союзное государство Речь Посполитую. Но при всем этом оно сохранило собственную денежную систему как важнейшую гарантию своего суверенитета. Тогда было не легче, чем теперь — страна была вынуждена почти беспрерывно воевать.

На мой взгляд, предлагаемый нашим правительством финансовый союз с Россией и вхождение в «рублевую зону нового типа» с самого начала вовсе не экономический союз, а воссоздание империи на основе распавшегося было советского военно-промышленного комплекса. Это союз старой партийно-хозяйственной номенклатуры, и ждать от него выгод для Беларуси не приходится. Нашей крупной хозяйственной номенклатуре — «генералам» от промышленности — удобнее и спокойнее сохранять свои кресла, продолжая выпускать привычные комплектующие части к российскому оружию, тракторы и комбайны-«динозавры», цена, металлоемкость и энергоемкость которых примерно одинаковы. Но для этого нужны крупные заказчики и поставщики — и прежде всего в России. Предлагаемое правительством соглашение, возможно, и поспособствует сохранению таких связей. А заодно фактически выведет и промышленность, и хозяйственную номенклатуру из-под контроля Беларуси. Кстати, думаю, эти же цели преследовались, когда правительство предлагало заключить договор о «коллективной безопасности» и отдавать наши долги России путем продажи ей акций наших предприятий. Заключить такое соглашение и по-старому игнорировать нужды своей страны проще, чем переводить производство на выпуск продукции, нужной для Беларуси, — малогабаритной техники для крестьянских хозяйств и приусадебных участков, удобрений, бытовой техники, мебели. Всего этого не хватает, а то и просто нет в наших магазинах. И от союза с российским ВПК не прибавится.

Правительство твердит, что наша промышленность «задыхается» без российского рынка, и при этом ничего не делает для того, чтобы наконец насытить свой, белорусский. Какой же нам предлагают «союз»? Российский рубль снова стремительно дешевеет. Внутренняя политическая нестабильность в России чревата непредсказуемыми последствиями. Все большее влияние там приобретают идеи необходимости возврата к «доперестроечной» жесткой внешней политике. Если эти настроения, поддерживаемые ВПК, станут господствующими и начнут определять российскую внешнюю политику, то о характере возможных последствий вполне можно догадаться.

Не будем обманывать себя. Правительство В.Ф.Кебича предлагает нам отказаться от государственного контроля в пользу России. Но в чьих руках деньги, тот и приказывает. И я убежден, что за «удобный» российский рубль нам придется расплачиваться своей самостоятельностью. Сейчас у нас есть возможность поменять свое правительство и изменить экономическую политику так, как это нужно Беларуси. Войдя на предлагаемых условиях в зону российского рубля, мы эту возможность утеряем.

Я считаю, что экономическая политика, проводимая правительством В.Ф.Кебича, прямо направлена против суверенитета Беларуси и ее сейчас можно расценивать как прямое и открытое покушение на нашу государственность. Это уникальный случай: правительство государства предлагает меры, осуществление которых приведет по сути к исчезновению самого государства. И все это — плата за возможность оставаться в своих креслах. Так что от вхождения Беларуси в «рублевую зону нового типа» правительство ничего не потеряет, а только приобретет. Расплачиваться же придется нам. Поэтому мы тоже должны сделать свой выбор.



**Подминая под себя налитые зерном колосья ржи, врывается в наш дом фашистский танк — таков фрагмент новой экспозиции, с которой посетители вскоре смогут познакомиться в Белорусском государственном музее истории Великой Отечественной войны. Она расскажет о самом начале героической и многострадальной эпопеи.**

**В эти дни музей отмечает 50 лет со дня основания. За эти годы в нем побывали миллионы посетителей. Проведена огромная работа по сбору документов, реликвий, свидетельств очевидцев тех незабываемых дней.**

**И сегодня в музей поступает немало интересных экспонатов. Восстановленные заботливыми руками художника-реставратора Владимира Маслыко, они занимают достойное место на стендах.**

**НА СНИМКАХ:**

**1. В одном из залов музея.**

**2. Заведующий военно-фронтовым отделом музея Иван Храпов и старший научный сотрудник отдела Галина Бабусенко за подготовкой новой экспозиции «Начало войны».**

**Фото Александра ТОЛОЧКО, БЕЛИНФОРМ.**

## НОВЫ БАНК НА БЕРСАНА

**Дзмітрый ГРЫВЕНСКІ.**

У Нацыянальным банку 22 верасня зарэгістраваны яшчэ адзін банк. Ліцэнзія выдадзена Беларускаму акцыянернаму камерцыйнаму банку «Магнатбанк», статутны фонд якога складае 300 млн. рублёў. Банк у першую чаргу будзе займацца падтрымкай развіцця прадпрымальніцкай дзейнасці і малога бізнесу. Знаходзіцца ён у Мінску па вуліцы Берсана, 14.

СИТУАЦИЯ

# РАЗВЕ БЫЛО В МЕШКЕ ШИЛО?

**Ольга ЖАРИНА.**

*Пролог этой истории такой: как-то депутат горсовета В.Андрианова заинтересовалась, откуда на Комаровском рынке берутся глазированные сырки в шоколаде, которые производятся на гормолзаводе № 1 и в продажу не поступают, а должны идти в основном на обслуживание детских учреждений. Сессия горсовета поручила разобраться с этим делом Госторгинспекции, УВД и депутатской комиссии по потребительскому рынку.*

Правильно, скажет читатель, давно пора расследовать, по каким каналам идет утечка не только сырков, но и других товаров, которые, минуя магазин, оказываются в руках частных торговцев. Правильно-то правильно, но вопрос — как это сделать? Логика подсказывает, что начинать надо с проверки предприятия-производителя. Однако наша история развивалась иначе. Миновав гормолзавод, проверяющие решили сразу взяться за Московскую мелкооптовую базу, которая обслуживает детские и лечебные учреждения, снабжая их различными продуктами, в том числе и сырками. То ли сработал стереотип: раз торговое учреждение — значит, там может быть утечка товаров. То ли сказалось что-то другое, но факт остается фактом: все силы были брошены на базу.

Одна проверка сменяла другую. Обследовали Московскую мелкооптовую и так, и эдак, но в результате злоумышленников, которые сбывали бы товар «налево», и целыми партиями, не нашли. Да и откуда им взяться, если база обслуживает своих клиентов по предварительному заказу и только по безналичному расчету.

Однако уходить ни с чем проверяющим было неловко. И в справках появляется следующая информация: «администрация базы способствует разбазариванию продуктов питания». А в доказательство приводятся такие цифры: кроме детских и лечебных, база обслуживает и некоторые другие учреждения, которые закреплены за ней решением городского управления торговли. Так вот, в прошлом году этим «другим» учреждениям было отпущено 8% всего сахара, 9,2% — гречки, 33% — глазированных сырков. В этом году сырков отпущено вообще 53%. Например, ПКФ «Антром», ООО «Автомар» получили их почти столько же, сколько и все дома-интернаты и детские дома, а АП «Восход» это количество превосходит на 600 сырков. Но почему-то никто из проверяющих не обратил внимания на то, что ООО «Автомар» — это молодежный центр, а вовсе не коммерческая фирма, занимающаяся куплей-продажей. А «Антром» получает на базе продукты для организации питания водителей, которым тоже кушать хочется, а своей общепитовской точки у них нет.

Нет в справках и записи, что среди 85 прочих организаций, закрепленных за базой, — дворцы и дома школьников, станция юных натуралистов, Белстудстрой, Белорусское общество инвалидов и т.д. К прочим их причислили только по той причине, что это уже не бюджетные организации, а самостоятельные хозрасчетные структуры. И если говорить честно, то именно за их счет база и существует. Ведь обслуживание только бюджетных организаций с применением торговой надбавки в размере 1% никак не покрывает расходов Московской мелкооптовой. С иных же структур берется надбавка в 20%, и это приносит до четверти всех доходов.

А финансы базе нужны не только для обычной деятельности, но и для расширения, реконструкции. Два года назад наша газета как раз писала о том, в каких условиях функционирует эта организация: катастрофическая нехватка складских помещений, холодильного оборудования и, как следствие, — антисанитария, ужасные условия для работы. Расширение базы — не прихоть, а насущная необходимость, которая требует больших затрат, исчисляемых не одним миллиардом. Эти деньги никто базе не даст, их надо зарабатывать самим. А сделать это сейчас практически невозможно.

Есть и еще одно упущение проверяющих — анализируя распределение продуктов, никто из них не поинтересовался, почему уже несколько месяцев в продаже отсутствует рыба, сельдь, масло растительное, ксилит, сорбит, кондитерские изделия, шоколад. Сейчас эти дефицитные продукты можно раздобыть только через коммерческие фирмы и за наличные деньги. Такой возможности у базы нет. И потому существует острая проблема товароснабжения.

Приводя аргументы «за» базу, я вовсе не собираюсь «обелить» торговое учреждение. Какие-то упреки ему можно предъявить. Например, проверки показали, что некоторые клиенты не знали о возможности приобретения на базе тех же сырков, потому что товароведы никогда не предлагали ассортимент остродефицитных товаров.

Директор базы Д.Сериков аргументирует это тем, что сырки сейчас дорого стоят — 50 рублей 1 штука, поэтому многие организации отказались от их получения. Тем более, что детские учреждения имеют большую задолженность базе. Этот довод можно принять, а можно и усомниться. Базе, наверное, проще работать так, как всегда, не задумываясь, какая организация что получает. Продали сахар АП «Восход» или гречку МП «Гигант» — ну и ладно. Но ведь сахар в городе — по талонам, почему же работники «Восхода» должны быть в преимуществе и получать его дополнительно, но вовсе не по коммерческой цене? А гречка и в прежние времена была дефицитом. Есть повод для упреков, но акцентировать внимание хочется вот на чем. База лишь исполняет то, что ей предписано уставом и вышестоящей организацией — управлением торговли. Именно управление и должно отвечать в первую очередь за то, что мелкооптовая обслуживает не тех или не тем. Именно управление и способствовало «разбазариванию дефицитных продуктов».

Чтобы не утомлять читателей долгими описаниями, перейду к последней части этой истории. Проверки все же дали определенный эффект. Управление торговли провело совещание по работе базы, на котором был пересмотрен список организаций и учреждений, закрепленных за мелкооптовой. 29 из них откреплены, отпуск товаров им прекращен. Сейчас масло растительное, гречку, сахар получают только детские и лечебные учреждения. Ведется строгий учет заявок на глазированные сырки. Руководство базы нашло возможность приобретать растительное масло и свежемороженую рыбу.

Все это хорошо, но перед проверяющими стояли другие задачи, которые оказались необоснованными. Получилось так, что искали в мешке шило, которого там не было. Потрачено время, в проверках участвовало немало людей, которые могли вместо этого сделать что-то другое, более существенное. А сколько нервов ушло за эти месяцы у работников базы при разборах с инспекторами.

И все потому, что изначально был допущен просчет. Не с базы надо было начинать. Ведь утечка сырков могла быть на производстве — гормолзаводе или по другим каналам. Кстати, на заводе я узнала, что при наличии сырья предприятие делает в день до 80 ящиков сырков (в ящике 200 штук), которые поступают на Партизанскую и Московскую мелкооптовые базы, в детские кафе «Аленький цветочек», «Гномик», «Вясёлка». Продаются сырки и через стол заказов самого завода. Так может, стоило проверять поочередно все эти учреждения, а не выхватывать одну Московскую мелкооптовую базу?

Вспоминается последний разговор с ее директором. Д.Сериков был серьезно обеспокоен, ведь после открепления 29 организаций доходы мелкооптовой снизились на четверть. Зарплата у работников и прежде была невысокой, а что будет дальше? Как выжить, да еще в тех условиях, про которые шла речь?

... А глазированные сырки и по сей день спокойно лежат на прилавках Комаровского рынка.

ДЗЕЛАВЫ МІНСК

# СУМЕСНЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ: 5 ГОД БЕЛАРУСКАЙ АДКРЫТАСЦІ

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».**





У свой час шмат спрэчак выклікала сама ідэя стварэння сумесных прадпрыемстваў. Якіх толькі пярэчанняў не было: ад распродажу нацыянальнага багацця да каланізацыі краіны. Былі таксама і спадзяванні, што заходнія фірмы, заходні капітал нахлынуць на Беларусь і хуценька зробяць у нас так, як у іх на радзіме.

З той пары мінула пяць гадоў. Сёння ў рэспубліцы зарэгістравана каля 1300 СП, і 250 прадпрыемстваў поўнасцю з іншаземным капіталам. Дэманстрацыяй дасягненняў сумесных прадпрыемстваў стала выстава «Інтэрінвест-93», арганізаваная Дзяржкамітэтам па знешнеэканамічных сувязях і Беларускай асацыяцыяй сумеснага прадпрымальніцтва «Венчэ», што прайшла 21-24 верасня ў Нацыянальным выставачным цэнтры. У ёй прынялі ўдзел больш за 50 сумесных, замежных і айчынных прадпрыемстваў. Старшыня Дзяржкамітэта па знешнеэканамічных сувязях У.Радкевіч на адкрыцці адзначыў, што сёння ў рэспубліцы створана заканадаўчая і нарматыўна-прававая аснова для нармальнай жыццядзейнасці сумесных прадпрыемстваў. Закон аб замежных інвестыцыях, прыняты Вярхоўным Саветам адным з першых, дае шэраг ільгот замежным інвестарам і страхуе іх інвестыцыі. Але ўклад СП у агульны аб'ём вытворчасці тавараў і паслуг рэспублікі складае толькі 1,5-2 працэнты. Яны стварылі 15 тысяч працоўных месц, вырабляюць тавары народнага спажывання, часам раней не вядомыя ў рэспубліцы. Дарэчы, з 1300 зарэгістраваных СП 265 (або 25 працэнтаў ад агульнай колькасці) займаюцца вытворчасцю . Што, па меркаванню сп.Радкевіча, адпавядае міжнароднай практыцы. Астатнія займаюцца гандлем, аказваюць разнастайныя паслугі, уносяць рэальны ўклад у насычэнне спажывецкага рынку. Заўважым, што не ўсе ўдзельнікі выставы падзялялі аптымізм сп.Радкевіча наконт выдатных якасцей і дасканалай распрацоўкі беларускага заканадаўства аб замежных інвестыцыях, практыцы адкрыцця і дзейнасці сумесных прадпрыемстваў. Былі ў іх канкрэтныя заўвагі, якія ўздымаліся на тэматычных семінарах з удзелам спецыялістаў шэрагу міністэрстваў. Цікавыя думкі выказаў загадчык аддзела знешнеэканамічных сувязей Мінгарвыканкама С.Броўка. Так, па яго меркаванню, такія прадпрыемствы маглі б даць (і гатовы даць) гораду значна больш, чым сёння. Але інвестыцыйны клімат, закон і практыка яго прымянення пакуль далёкія ад жадаемага ўзроўню. Яны звязаны з нашымі эканамічнымі цяжкасцямі: рубель неканверсуемы, падатковае заканадаўства — з недахопамі, не вырашаны пытанні з прыватызацыяй і ўласнасцю на зямлю. І ўсё ж колькасць сумесных прадпрыемстваў у Мінску за два гады павялічылася ў пятнаццаць разоў. Па прагнозу сп.Броўкі доля рознічнага гандлю ў дзейнасці СП будзе скарачацца, бо ён выключаны з пераліку відаў дзейнасці, што даюць права на падатковыя льготы, а вытворчасць узрасце. Так, усе гэтыя моманты аказваюць уплыў на выбар заходніх інвестараў. Бо свабодных капіталаў у сусветнай эканоміцы не так ужо і шмат, за іх вядзецца жорсткая барацьба паміж вельмі многімі краінамі, зацікаўленымі ў замежных інвестыцыях. Яны ідуць на лібералізацыю нацыянальнага заканадаўства, укладваюць вялікія сродкі ў развіццё сучаснай інфраструктуры, камунікацый, банкаўскай сістэмы.

Наша краіна аніякіх пераваг, акрамя выгаднага геаграфічнага становішча, высокаадукаваных і высокакваліфікаваных (але нізкааплатных) кадраў прад'явіць не можа. Галоўная перашкода — няўпэўненасць заходніх інвестараў у стабільнасці становішча. Як далі «права карыстання зямлёй», так могуць і пазбавіць яго. У той жа час экспрапрыіраваць уласнасць іншай дзяржавы значна цяжэй з пункту гледжання міжнароднага права. Мо таму інвестары і арыентуюцца на мінімальны памер статутнага фонду ствараемых СП (у мінулым годзе — у сярэднім 20 тысяч долараў ЗША). А агульная колькасць знешніх інвестыцый у тым жа 1992 годзе склала недзе 70-80 мільёнаў долараў ЗША, што, згадзіцеся, не тая сума, якая можа істотна паўплываць на стан спраў у эканоміцы. Можа малы залатнік, але дарагі? Так, у некаторых выпадках гэта прымаўка, як кажуць, да месца. Напрыклад, сумеснае беларуска-амерыканскае прадпрыемства «Summit sistems» развівае вытворчасць у галіне высокіх тэхналогій. Персанальныя камп'ютэры гэтай фірмы робяцца па зусім іншых тэхналогіях, якія гістарычна ў нашай рэспубліцы не развіваліся, якімі валодаюць толькі Злучаныя Штаты — лідэр у іх вытворчасці і вытворчасці камплектуючых.

Беларуска-брытанскае сумеснае прадпрыемства «БелАВМ» прапануе самыя сучасныя тэхналогіі электронных сістэм камунікацый, знаёміць спажыўцоў з іх зручнасцю і надзейнасцю. Такіх прыкладаў на выставе было шмат: сучасныя тэхналогіі, сучасныя вырабы, сучасныя сістэмы іх сервіснага абслугоўвання ствараюць зусім іншую, нязвыклую якасць тавараў, да якой і павінны імкнуцца айчынныя вытворцы. Тым больш, што значную колькасць вырабаў сумесныя прадпрыемствы прадаюць пакуль на ўнутраным рынку за рублі. Прыклады таму: «Беліта», «Белвест» (апошні прадстаўляў новую восеньскую калекцыю абутку). Але гэтыя і шэраг іншых СП прадаюць сваю прадукцыю і на экспарт. У яго структуры найбольшы аб'ём у мінулым годзе займалі тавары вытворча-тэхнічнага прызначэння, сыравіна, паслугі, прадукты харчавання, тавары народнага спажывання. Кошт экспарту кожнай групы складае мільёны долараў ЗША, гэта значыць, СП пачалі працаваць на эканоміку рэспублікі. Дададзім да гэтых мільёнаў кошт выраблёнай імі прадукцыі, што замяшчае імпарт.

Такім чынам, усе перавагі развіцця сумесных прадпрыемстваў ужо праявіліся: перадача тэхналогій, стварэнне рабочых месц, развіццё экспарту. Адзначым, што замежныя партнёры імкнуцца ствараць сумесныя прадпрыемствы ў высокатэхналагічных, навукаёмістых галінах, там, дзе ў беларускага боку існуюць пэўныя напрацоўкі. А таксама — у сферы паслуг і ў стварэнні інфраструктуры бізнесу. Яшчэ цікавы момант — ствараць СП пачалі прыватныя асобы як з замежнага, так і з беларускага боку. Інвестыцыі ў гэтым выпадку досыць сціплыя, бо грамадзяне рызыкуюць уласнымі грашамі. А працаваць у неспрыяльным рынкавым асяроддзі, у нестабільнай абстаноўцы жадаючых мала. Таму, калі Беларусь разлічвае прыцягнуць салідных інвестараў, ёй трэба шмат зрабіць і перш за ўсё — у галіне заканадаўства.

**НА ЗДЫМКАХ Ю.ЗАХАРАВА: вынікі дзейнасці сумесных прадпрыемстваў «БелІТА» (касметыка) і «Інтэрквадра» (вылічальная тэхніка і праграміраванне) добра вядомыя на Беларусі.**

Я ВАМ ПИШУ

# СВОИМИ РУКАМИ ТВОРИМ БОЛЕЗНИ

**Альдона ИСАЙЧУК.**

Интересный мы народ. На всех перекрестках трубим о болезнях, о нехватке лекарств, их дороговизне. И совсем мало рассуждаем о том, как сохранить здоровье. Почти не задумываемся над тем, что своими же руками мы творим все болезни. Вот уж поистине верно кем-то подмечено, что культура и здоровье — нераздельны.

Зайдите в любую квартиру. Ничего не скажешь: чистота, порядок, уют. У порога обязательно снимается обувь. Кругом ковры и ковровые дорожки. В стенной мебели всеми цветами радуги переливается хрусталь, дорогое стекло. На кухнях — занавесочки и обилие цветов.

Но вот вы выходите на лестничную площадку... Такое впечатление, что здесь живут совершенно другие люди. Кругом окурки, шелуха от семечек, бытовой мусор. Углы в большинстве случаев превращены в мини-писсуары. Потолки испещрены грязью — непонятно, как туда-то добираются. О запахах лучше не упоминать...

А посмотрите, что делается под окнами! Ведь есть же в домах мусоропроводы. Ан нет — выбрасывают грязь и отходы в окно, с балкона. Летом этот мусор частично скрывают зеленые насаждения. Но вот весной, когда сходит снег — просто страшно и противно до тошноты.

Однако мало кого заботит то, что эта грязь возвращается к нам рикошетом. Мы дышим загаженным воздухом, с которым и вселяется в человека болезнь.

Каждую осень и весну возле домов высаживается немало кустарников, цветов, деревьев. Газоны засеваются травой. Но что от всего этого остается через пару месяцев?! Все вытаптывается, ломается, утюжится личным транспортом жильцов этих же домов.

Чтобы сократить себе путь на каких-то пару метров, протаптываются через клумбы и газоны чуть ли не персональные дорожки. Но ведь известно, что даже животные идут на водопой определенной тропой. Их никто этому не учит. А нам с младших классов школы твердят о том, что зелень — это фабрика кислорода. Однако человек ее нещадно уничтожает. Вот и получается, что вместо кислорода мы вдыхаем пыль и смрад.

На дачных же участках картина другая. Пусть только попробует даже ребенок ступить нечаянно на клумбу или грядку! Там и доски через участок положат, чтобы земля не утаптывалась. Конечно, это дача личная. Чего не скажешь об улице, лестничной клетке, лифте. Или, скажем, о кинотеатре и стадионе. Что там творится после сеансов, особенно на местах, где сидела молодежь, школьники!..

Объясняется такое поведение просто — отсутствием элементарной культуры, отсутствием совести. Раз никто не видит — можно гадить. Правда, сейчас уже и постороннего глаза не шибко-то боятся.

Хочется, чтобы все люди наконец-то осознали: без внутренней культуры, без элементарной порядочности мы никогда не станем богаче. Никогда не станем здоровее.

БЛАГОТВОРИТЕЛЬНОСТЬ

**Бесценным приобретением назвали специалисты 2-й детской больницы г.Минска подаренный им детский фиброгастроскоп фирмы «Олимпус». Прибор приобретен на пожертвования граждан земли Верхней Австрии, членов благотворительных обществ «Гольдхаубенгруппен». Стоимость подарка около 25 тысяч долларов. Теперь можно надеяться, что обследование детей будет более качественным.**

**Виктор НАБЕРЕЖНЫЙ.**

**Фото автора.**

ГЭТА ЦІКАВА

# ПРА ШТО КАЖА «SOS»?

**Міхаіл МАЛІНОЎСКІ, паўнамоцны член Геаграфічнага таварыства.**

Доўгі час, як сёння і большасць маіх суайчыннікаў, я меркаваў, што самы што ні на ёсць вядомы для ўсіх людзей свету сігнал адчайнага бедства «SOS», які калі-некалі поўніць сусветны эфір, азначае «спасите наши души» («СНД»), ці, як яшчэ мяркуюць другія, «спасите наш корабль» («СНК»). Але гэта аказалася не так.

А што тады «кажа» «SOS»? Уявіце сабе — нічога. Вучоныя і спецыялісты выбралі самы зручны і просты для хуткага запамінання, перадачы і прыёму сігнал — тры кропкі, тры працяжнікі і зноў тры кропкі. Адбылося гэта ў 1906 годзе, а афіцыйна сігнал быў прыняты праз два гады — у 1908 годзе. Так што ўжо спаўняецца 85 гадоў гэтаму спецыяльнаму кодаваму сігналу бедства.

А «СНД» («SOS») — «спасите наши души», ці «СНК» — «спасите наш корабль» — гэта вельмі цікавая памылка. Трэба тут дадаць, што і першыя літары слоў — «спасите наши души», «спасите наш корабль» — не зыходзяцца з літарамі SOS. Магчыма, прыдумка гэтая марская, бо ў крытычных сітуацыях болей як на перадатчык і не прыходзіцца спадзявацца, пры гэтым кожны тады думае аб сваёй душы ці караблі.

Адкуль я пра гэта даведаўся? Адказваю. Гэтымі хадзячымі памылкамі ў свой час займаўся даследчык Том Барнаш, які зрабіў добры «Слоўнік несапраўдных звестак» і выдаў яго ў Злучаных Штатах Амерыкі.

## АД КАМІТЭТА ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ГАЛІНЕ НАВУКІ І ТЭХНІКІ

**Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі нагадвае, што прыём работ на саісканне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1994 года праводзіцца да 1 лютага 1994 г.**

**Работы прадстаўляюцца ў Камітэт у адпаведнасці з Палажэннем аб прэміях, зацверджаным Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 чэрвеня 1992 года нумар 1723-ХП.**

**Па ўсіх пытаннях, звязаных з вылучэннем работ і афармленнем прадстаўлення, звяртацца ў Камітэт, які знаходзіцца па адрасу: 220072, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 66, пакой 317 (III паверх), тэлефоны: 39-54-56, 39-31-11.**

